УДК 811.161.3'373.21(476.7)
ББК 81.2Бел-3
З-17

**Зайка, А.**

З-17 Мікратапаніміка Івацэвіччыны / Алесь Зайка. – Мінск : Тэхналогія, 2018. – 227 с.

ISBN 978-985-458-293-1.

Гэтая кніга – першы сістэматызаваны збор мікратапонімаў з Івацэвіцкага раёна на Берасцейшчыне, якія занатаваў Алесь Зайка (1948–2018) за апошнія два дзесяцігоддзі, у 1995–2016 гадах. Адметнасць кнігі ў тым, што ў ёй змешчаны мікратапанімічны матэрыял ад XVI стагоддзя да сённяшняга часу.

Разлічана на шырокае кола чытачоў.

**УДК 811.161.3'373.21(476.7)**
**ББК 81.2Бел-3**

**ISBN 978-985-458-293-1**

# ЗМЕСТ

# ПРАДМОВА

"Мікратапаніміка Івацэвіччыны" – плён маёй шматгадовай працы па збіранні назоваў мясцовых геаграфічных аб'ектаў ва ўсіх 116 вёсках Івацэвіцкага раёна. Кожнае лета выпраўляўся па вёсках, каб запісаць, занатаваць невядомае мне найменне ўрочышча, новы мікратапонім. Каб не згубіліся, каб засталіся... А колькі цікавых, дапытлівых людзей сустрэў я на сваім шляху! З якой ахвотай успаміналі яны і найменні, і даўнейшае жыццё. Цеплынёй і радасцю свяціліся вочы. Я іх добра разумеў. Згадваліся тыя сцежкі-дарожкі, палі, сенажаці, азёры ды рачулкі, дзе прайшло іх маленства, пара маладосці, сталыя гады, дзе душа навек зраднілася з дарагімі сэрцу мясцінамі...

Прызнаюся шчыра: узяўся за гэтую працу, калі пабачыў, колькі адметных, яскравых, невядомых лінгвістычнай навуцы слоў-назоваў знікла з ужытку пасля "вялікага" асушэння балот у 60-х гадах мінулага стагоддзя, пасля высечкі лясоў, страты дарог "звычайных, звечных". Возьмем для прыкладу маё роднае Заполле. Непадалёку ад вёскі ляжаў балотны абшар, якім карысталіся і людзі з навакольных паселішчаў. Кожная выжарына, нізінка, кожны грудок ці востраў мелі свае назовы. А пасля асушэння ўвесь гэты балотны масіў пачалі называць адным словам: Заялоўе. Адышлі ў нябыт, сталі паціху забывацца такія самабытныя найменні ўрочышчаў, як Аступо́к, Верацяі́, Віджджа́ры, Грабіна́, Дрэ́нніца, Засе́кі, Засце́нак, Крывы́я Гра́ды, Ку́ціна, Ла́ставец, Лісі́чнік, Мядзве́джы, Надда́ткі, Пажары́ска, Сту́блы, Уці́нкі, Ясюко́ва ды інш.

Мікратапонімы ўзнікаюць у лакальнай людской супольнасці з натуральнай патрэбы назваць навакольныя аб'екты, каб патлумачыць свайму суседу, таварышу, суразмоўцу месца іх знаходжання. Жыхар вёскі Турная Мікалай Дзядок казаў: "Мы большую частку свайго жыцьця праводзілі ў полі, у лесе, на сенажаці. І кожны з нас ведаў, як называецца тая ці іншая мясьціна, бо інакш ня ведалі б, куды ехаць ці ісьці". Уражвае назіральнасць людзей, іх уменне яскравым, дакладным словам ахарактарызаваць геаграфічны аб'ект, яго адметнасць, своеасаблівасць.

Абсалютная бальшыня навукоўцаў, што займаюцца пытаннямі мікратапанімii, трымаюцца думкі, што мікратапонімы зменлівыя

і недаўгавечныя. Вось тыповае меркаванне наконт гэтага: “Што да лёсу мікратапонімаў, то ён адметны тым, што кожнае найменне вядома выключна невялікай колькасці людзей, сфера яго ўжывання абмежаваная. Вось чаму мікратапанімія зняпраўджвае звыклы погляд пра даўгавечнасць тапонімаў і іх устойлівасць. Мікратапонімы лёгка мяняюцца ці замяняюцца. Яшчэ лягчэй яны знікаюць зусім”*.

Цікава было паглядзець, як стасуюцца гэтыя высновы з сабраным мною тапанімічным матэрыялам. На жаль, фундаментальны “Гістарычны слоўнік беларускай мовы”**, што абымае літаратурныя творы XIV–XVIII стагоддзяў, не змяшчае ўласнай лексікі; падрыхтоўка беларускага анамастыкону вызначана як асобная задача беларускай гістарычнай лексікалогіі. Таму давялося звярнуцца наўпрост да крыніц, балазе захавалася нямала старых пісьмовых помнікаў, датычных даследаванага мною абшару.

Багата мікратапонімаў утрымліваюць “Пісцовая кніга Пінскага і Клецкага княстваў” (1552–1555 гг.), дзе асобна вылучаецца Вядская воласць з вёскамі Вяда, Тупічыцы, Малая і Вялікая Гаць, Бабровічы, Коланск, “Пісцовая кніга былога Пінскага староства” (матэрыялы 1561–1566 гг.), “Рэвізія пушчаў і пераходаў звярыных у Вялікім Княстве Літоўскім”, складзеная ў 1559 годзе Рыгорам Валовічам на даручэнне вялікага князя Жыгімонта Аўгуста, а таксама выпісы з дакументаў, змешчаных у шматтамовых актавых кнігах XVI–XVIII стст. Вялікая колькасць мясцовых мікратапонімаў выяўлена і ў “Актах Слонімскага земскага суда”, выдадзеных Віленскай археаграфічнай камісіяй у 1895 годзе. Прагледжаны шматлікія карты, рэвізскія сказкі асобных вёсак, дакументы па камасацыі Касаўскага павета, іншыя крыніцы.

Праца з даўнейшымі крыніцамі яшчэ больш пераканала, якім багатым, яскравым лінгвістычным матэрыялам мы валодаем. А што да зменлівасці мікратапонімаў ці, наадварот, іх жывучасці, то высновы няхай робіць чытач. Каб палегчыць яму выкананне гэтай задачы, у Дадатку пры канцы кнігі ў якасці прыкладу я падаю параўнальныя табліцы мікратапонімаў вёсак Бабровічы і Вяда, выпісаных з крыніц XVI стагоддзя і занатаваных пад час экспедыцыйных даследаванняў у наш час (табл. 1–4).

Сучасны Івацэвіцкі раён, так склалася здаўна, уяўна дзеліцца на тры рэгіёны – Быценшчыну, Касаўшчыну і Целяханшчыну, і кожны з іх своеасаблівы, непаўторны, варты пільнага вока і гісторыка,

---

* Карпенко Ю. А. Свойство и источники микротопонимии // Микротопонимия. М.: Изд-во МГУ, 1967. С. 17.

** Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Вып. 1–37. Мінск: Навука і тэхніка / Беларуская навука, 1982–2017.

і этнографа, і мовазнаўца. Калі Быценшчына ды Косаўшчына знаходзяцца ў арэале гарадзенска-баранавіцкай дыялектнай групы гаворак, то Целяханшчына – заходнепалеская.

На фармаванне дыялектнага ландшафту, безумоўна, наклалі адбітак асаблівасці прыроднага характару (на поўдні – балоты, пясчаныя выспы, на поўначы – палі ды светлыя хваёвыя бары), а таксама колішняя адміністрацыйная мяжа паміж Слонімскім ды Пінскім паветамі, якая была канчаткова замацаваная ў выніку рэформы 1565–1566 гадоў у Вялікім Княстве Літоўскім і трывала з нязначнымі зменамі да сярэдзіны XX стагоддзя. Усе гэтыя фактары паспрыялі развіццю самасвядомасці мясцовага люду, праяўленню яго адрознай, своеасаблівай матэрыяльнай і духоўнай культуры. Целяханшчына – гэта ўжо “палешукі”, пачатак Палесся, а Быценшчына і Косаўшчына – “ліцьвіны”, “ліцьвінская зямля”.

Некалі я занатоўваў і мікратапонімы сумежных рэгіёнаў – Ружаншчыны, а таксама поўдня Слонімшчыны. Гэтыя мясцовасці, як Косаўшчына і Быценшчына, даўней былі часткай Слонімскага павета, а пазней, у міжваеннай Польшчы, – Косаўскага. Матэрыял гэты таксама дужа цікавы, і, каб ён не страціўся, я вырашыў і яго ўлучыць у кнігу.

У слоўніку ўжыты алфавітны парадак размяшчэння матэрыялу. Загалоўнае слова (вылучанае ВЯЛІКІМІ літарамі) пададзена з абазначэннем націску і захаваннем асноўных дыялектных рысаў, а таксама паказаннем роду (м., ж., н.) або ліку (мн.). Калі інфармант (інф.) даваў сваё тлумачэнне мікратапоніма, у запісах (вылучаныя *курсівам*) таксама захоўваліся дыялектныя асаблівасці той ці іншай гаворкі. Пасля кожнага мікратапоніма паказваецца называны аб’ект, населены пункт, у якім занатавана слова, яго адміністрацыйная прыналежнасць (паводле стану на 1 лістапада 2013 года).

Мікратапонімы, узятыя з старажытных актаў, маюць адпаведную спасылку на пісьмовую крыніцу. Геаграфічныя аб’екты, выпісаныя адтуль, часта суправаджаюцца звесткамі пра іх памеры ў даўнейшых адзінках вымярэння плошчы – моргах і прутах (1 “літоўскі” морг змяшчае 300 прутоў і прыблізна роўны 0,71 гектара).

## Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел Івацэвіцкага раёна (на 01.11.2013 г.) і ўжываныя скароты

Гарады Івацэвічы, Косава, гарадскі пасёлак Целяханы.

**Абр. – Аброўскі сельсавет:** вёска Аброва.

**Амяльн. – Амяльнянскі сельсавет:** вёскі Амяльная, Глінная, Гошча, Каранная, Коланск.

**Быц. – Быценскі сельсавет:** вёскі Быцень, Вуглы, Доўгае, Заполле, Зарэчча, Козіна, Манцюты, Міронім, Наліўкі, Пагор'е, Прыбарава, Рудня.

**Вольк. – Волькаўскі сельсавет:** вёскі Волька, Магіліцы, Чамялы.

**Выган. – Выганашчанскі сельсавет:** вёскі Бабровічы, Выганашчы.

**Дабром. – Дабромысленскі сельсавет:** вёскі Глядзенне, Дабромысль, Закаплічча, Сасновы Бор, Сялец, Югалін.

**Даман. – Даманаўскі сельсавет:** вёскі Вішнёўка (Гнойна), Дабрынёва, Даманава, Коханава.

**Жытл. – Жытлінскі сельсавет:** вёскі Воля, Жытлін, Зыбайлы, Корачын, Сярадава, Уласаўцы, Хадакі, Яблонка.

**Квас. – Квасевіцкі сельсавет:** вёскі Альба, Альшаніца, Верашкі, Ёдчыкі, Квасевічы, Скураты, Хрышчонавічы, Ятвезь.

**Коз. – Козіцкі сельсавет:** вёскі Вулька-Аброўская, Козікі.

**Кос. – Косаўскі сельсавет:** вёскі Бялавічы, Заполле, Старажоўшчына, Хадоркі.

**Люб. – Любішчыцкі сельсавет:** вёскі Любішчыцы, Майск, Панкі, Плехава.

**Міл. – Мілейкаўскі сельсавет:** вёскі Була, Бусяж, Галік, Галынка, Гладышы, Грыўда, Даргужы, Дубітава, Жамайдзякі, Куляшы, Лазаўцы, Мілейкі, Рацкевічы, Сакоўцы, Харошча.

**Падст. – Падстарынскі сельсавет:** вёскі Азярцо, Боркі, Кушняры, Падстарынь, Руда, Сенькавічы, Халап'я.

**Рэчк. – Рэчкаўскі сельсавет:** вёскі: Гутка, Краі, Рудня, Рэчкі.

**Святав. – Святавольскі сельсавет:** вёскі Вялікая Гаць, Доўгая, Святая Воля, Турная.

**Стайк. – Стайкаўскі сельсавет:** вёскі Аляксейкі, Аўсто, Быч, Гошчава, Зялёны Бор, Міхнавічы, Няхачава, Размеркі, Стайкі, Юкавічы.

**Целях. – Целяханскі сельсавет:** вёскі Вулька-Целяханская, Глінішча, Горталь, Краглевічы, Соміна.

**Ягл. – Яглевіцкі сельсавет:** вёскі Бараны, Галенчыцы, Гічыцы, Ёлкі, Яглевічы.

## Населеныя пункты Івацэвіцкага раёна, якія не існуюць, але мікратапонімы адзначаны

**Вяда**, вёска ў Выганашчанскім сельсавеце, спалена нямецкімі карнікамі 15.09.1942 г.; **Заціша**, вёска ў Жытлінскім сельсавеце, спалена нямецкімі карнікамі ў 1942 г.; вёскі **Красніца, Тупічыцы**, што ў Выганашчанскім сельсавеце, спалены нямецкімі карнікамі 15.09.1942 г.

## Скароты, якія датычаць населеных пунктаў па-за межамі Івацэвіцкага раёна

**Пружанскі раён:**

**Варан. Пруж. – Варанілавіцкі сельсавет:** вёскі Астравок, Буцькі, Варанілавічы, Верчыцы, Еськаўцы, Каплі, Клепачы, Ласасін, Палешукі, Таўцвілы, Шчытна.

**Паўл. Пруж. – Паўлаўскі сельсавет:** вёскі Загалічы, Юндзілы.

**Слонімскі раён:**

**Дзерав. Слон. – Дзеравянчыцкі сельсавет:** вёскі Забулле, Літва.

**Жыров. Слон. – Жыровіцкі сельсавет:** вёска Залессе.

**Навадзяв. Слон. – Навадзявяткаўскі сельсавет:** вёскі Баравікі, Вяценеўка, Гарбачы, Грынкоўшчына, Малы Галік, Мізгіры, Партызанаўка (даўнейшы назоў Пляшкі), Сяркі.

## Пісьмовыя крыніцы


АВК – Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею для разбора древних актов. Т. 14. Инвентари имений XVI ст. Вильна, 1887; Т. 18. Акты о копных судах. Вильна, 1891; Т. 22. Акты Слонимского земского суда. Вильна, 1895.

Бел. у эпоху феад. – Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1, Минск, 1959.

Купчая крепость 1873 г. – Данная купчая крепость крестьянам д. Серадово Коссовской волости. 1873 г. (З прыватнага архіва Г.А.Шурубейкі) // Івацэвіцкі веснік. 2001. 15 траўня.

Рус. гіст. бібл. – Русская историческая библиотека. т. 20, СПб., 1903.

Рэвізія пушчаў – Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском, составленная старостою мстибоговским Григорием Богдановичем Воловичем в 1559 г. Вильна, 1867.

Пісц. кн. Пін. ст., – Писцовая книга бывшего Пинского староства, составленная по повелению короля Сигизмунда Августа в 1561–1566 гг. пинским и кобринским старостою Лаврином Войною. Вильна, 1874.

Пісц. кн. Пін. і Клец. княст. – Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств, составленная пинским старостою Станиславом Хвальчевским в 1552–1555 гг. Вильна, 1884.

АБЕ́РАЦ м. поле. *Аберац ніколі не гараўся, бо там нізко, кусты растуць* (інф.). Гічыцы Ягл.

АБО́РА ж. поле. *Абора – гэта вялікі каровячы хлеў* (інф.). Ятвезь Квас.

АБО́РАК м. поле. *Упадзіна, лагчынка была на полі, яна ніколі не засявалася, хмызьняк там рос* (інф.). Быч Стайк.; лес. Волька Вольк., Магіліцы Вольк.

АБРО́СЛАЕ н. урочышча. Малая Гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг.; 166–167).

АБРО́ЎСКА ж. урочышча, ніўка. Малая Гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 154).

АБРО́ЎСКАЯ ПУ́ШЧА ж. вялікі лес. Вялікая Гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 144–145).

АБРЫ́ІЎ м. месца на возеры Вулькаўскае. Вулька-Целяханская Целях.

АГАРО́Д м. поле. Заполле Кос.; поле. *Прысядзібны ўчастак* (інф.). Прыбарава Быц.

АГАРО́ДНАЯ ж. вуліца, частка вёскі. Грыўда Міл.

АГАРО́ДЫ мн. участак зямлі. Альшаніца Квас.; поле. *Там даўней гаралі пад капусту, грады былі* (інф.). Дабрынёва Даман.

АГНЯНЫ́Я мн. паша. Падстарынь Падст.

АДА́СЁЎ БРОД м. паніжэнне на лясной дарозе. Бялавічы Кос.

АДА́ТКІ мн. паша. Быч Стайк.

АДЗІНО́КА ж. сенажаць. Коланск Амяльн.

АДКО́ЛАНА ж. месца на рэчцы Грыўда. Юкавічы Стайк.

АДО́ЛЕВО н. найменне віру на рацэ Фядоска. Бялавічы Кос.

АД РАКІ балота. Целяханы.

АДРО́К м. урочышча. Малая Гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 153).

АДРЫ́НА ж. балота. Косава.

АДРЫ́НКА ж. лес. *Даўным-даўно ў лесе стаяла на паляне каля балота адрына. У гэту адрыну селянін клаў сена, салому. А як памёр, то адрына развалілася. Паляна зарасла лесам, а назва засталася* (інф.). Бялавічы Кос.; поле, лес. Альшаніца Квас.

АДРЭ́НІЦА ж. лес. Дабрынёва Даман.

АЗЯРКО́ н. лужок. *У нас лужок за сялом, і невялікае азярко ў ім* (інф.). Падстарынь Падст.

АЗЯРЦО́ н. поле. Грыўда Міл.; балота. Руда Падст.

АЗЯРЫ́СКО н. балота. Заполле Быц., Заполле Кос. *Казалі, што даўней там было возера, вось чаму азярыско. А зараз упадзіна, трава там добрая расьце* (інф.). Няхачава Стайк.

АЗЯРЫ́ШЧА н. балота. Гошчава Стайк., Козікі Коз., Яглевічы Ягл.

АЗЯРЫ́ШЧО н. поле. Юндзілы Паўл. Пруж.

АЗЯРЭ́ЦКІ ЛОГ м. поле. *Поле, якое блізка каля Азярца* (інф.). Падстарынь Падст.

АКО́П м. гара, курган. *З аднаго боку рэчка, з другога рвы былі выкапаны* (інф.). Косава.

АКО́ПЫ мн. поле. *Калі цар ваяваў з немцамі, то ў 1915 годзе тут капалі акопы* (інф.). Сярадава Жытл.

АКРУ́ТЫ мн. балота. *Месца паміж новым і, відаць, старым рэчышчам Грыўды, выцягнутыя ўчасткі, як чоўны, іх тры, там добрая трава* (інф.). Хадоркі Кос.

АКСЮ́ЦІНА НІ́ВА ж. ніва на 5 маргоў. Бабровічы Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 110–111).

АЛЕ́НДРЫ мн. балота. Рацкевічы Міл.; вір на рэчцы Пратва. Рацкевічы Міл.

АЛЕ́НІ мн. лес. Галенчыцы Ягл.; лес, поле. *У лесі падназвай Алені ёсьць капец, курган. Кажуць, шведы ваявалі, то людзі гічыцкія хаваліся там. Так крычалі: "Галена, Магдалена, выходзьце, шведы паехалі!"* (інф.). Гічыцы Ягл.

АЛЕ́ХАВЕЦ м. востраў. *На гэтым востраві адна альха расьце. Яго Алехаўцом назвалі* (інф.). Уласаўцы Жытл.; лес. *Ольховы, болоцісты лес* (інф.). Козікі Коз.

АЛЕ́ХАЎКА ж. поле. Стайкі Стайк.

АЛЕ́ШНІКІ мн. лес. Соміна Целях.

АЛЁС м. балота. *Нізко, болото, дробны алешнік расьце* (інф.). Вуглы Быц. *У Алёсі ано вужэ водзяцца, гразко, нізко* (інф.). Плехава Люб.

АЛІСЕ́ЕЎКА ж. лес. *Кажуць, сяло Алісейкі там было, мор напаў на людзей, вымерлі* (інф.). Заполле Кос.; балота. Хрышчонавічы Квас.

АЛІСЕ́ЕЎСКАЯ ж. дарога. *Дарога ішла ў вёску Алісейкі, якая быццам колісь была там* (інф.). Заполле Кос.

АЛЬСЫ́ мн. балота. *Паласа хмызьняку на нізкім месцы* (інф.). Наліўкі Быц.

АЛЬХО́ВАЯ ж. воступ. Ласасінская пушча Слон. пав. (Рэвізія пушчаў, 1559 г., 22).

АЛЬХО́ВЫ ЛУЖО́К м. поле. Быцень Быц.; луг у лесе. Манцюты Быц.; лес, ніўка ў ім на 10 маргоў. Вяда Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 116–117).

АЛЬША́НІЦКІ СЕРВІТУ́Т м. поле. Альшаніца Квас.

АЛЬША́НІЦЫ мн. рэчка. Бялавіцкая пушча Слон. пав. (Рэвізія пушчаў, 1559 г., 24).

АЛЬША́НКА ж. рэчка. Альшаніца Квас.; лес. Харошча Міл.

АЛЬШЫНА́ ж. балота. *Даўней там расла старая тоўстая алешына* (інф.). Даманава Даман.; балота. Целяханы.

АЛЯСЕ́Ц м. лес. Альба Квас.; лес. *Рэчка Арлянка пачынаяцца з Алясца, з нізкае цяглавіны. Там мокро, а паабапал*

*плёса высокія грады* (інф.). Бялавічы Кос.; лес. Квасевічы Квас.; балота. Хрышчонавічы Квас.

АЛЯХНЕ́ЕВО н. лес. Квасевічы Квас.

АМЕ́ЛІНА н. урочышча, ніўка. Бабровічы Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 142), Вялікая Гаць Вядск. вол. (каля граніцы з Бабровічамі) (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 147).

АМША́НІК м. Месца на ўзлеску, дзе стаяў дашчаны будынак, у якім зімой трымалі вуллі. Грыўда Міл.

АМЯЛЁВА н. поле на 88 маргоў з васьмі ўчасткаў. Вялікая Гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 150–151).

АМЯЛЬНО́Е н. урочышча. Коланск Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1555 г., 160).

АМЯЛЯ́НІХА ж. *Месца на рэчцы Грыўда, дзе ўтапіўся чалавек, клікалі яго Амялян* (інф.). Гарбачы Новадзяв. Слон.

АНДА́ТКІ мн. сенажаць. *Обчае было балото, то дзялілі яго ўсім пакрыху* (інф.). Хадоркі Кос.; поле. Юкавічы Стайк.

АНДРЭ́ЕВ ЛУЖОК м. балота недалёка ад вёскі Рудня. Рэчкі Рэчк.

АНДРЭ́ЕВО н. возера. Літва Дзерав. Слон.

АНДРЭ́ЕЎ АСТРАВО́К м. востраў, дзве ніўкі на ім. Вяда Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 114–115).

АНІ́СЬКАЎШЧЫНА ж. лес. Жамайдзякі Міл.

АНТО́НІКАВА ж. дарога. Ёдчыкі Квас.

АПЯРЭ́СТАЕ н. балота. *Зараз тарфянік* (інф.). Хадакі Жытл.

АРАБІ́Н м. урочышча. Пераралоцкая пушча Слон. пав. (Рэвізія пушчаў, 1559 г., 18).

АРАДРО́М м. поле. *Зараз ужэ ні расьсяваюць удабрэньне самалётом, а поле, дзе яны раней садзіліся, і цяпер арадромом называюць* (інф.). Альшаніца Квас.; частка пасёлка Целяханы. *Колісь там "кукурузнікі" прызямляліса* (інф.). Целяханы.

АРЛІ́ННЫЕ мн. поле. Майск Люб.

АРЛЯ́НКА ж. рачулка. Бялавічы Кос.

АРЛЯ́НСКАЕ н. найменне лясніцтва. Бялавічы Кос.

АРЦЁМАЎШЧЫНА ж. поле. Жытлін Жытл.

АРЭ́ЛЕЦ м. востраў. Здзітаўская пушча Слон. пав. (Рэвізія пушчаў, 1559 г., 20); груд. *У нас кажуць ні аер, а арэй. Гаварылі так: "Пайду ў Арэлец, нарву арэю"* (інф.). Заполле Кос.

АРЭ́ХАЎ м. поле. Гічыцы Ягл.

АСАВЕ́Ц м. поле. *Нізкаватае поле, даўней асіны расьлі* (інф.). Ёлкі Ягл.

АСАВЕ́ЦКАЕ н. балота. Сялец Дабром.

АСАВІ́ШЧА н. балота. Майск Люб.

АСАВІ́ШЧЭ н. поле. *На гэтым полі палякі-асаднікі жылі* (інф.). Галенчыцы Ягл.

АСА́ДНІЦКАЕ н. поле. *Належала польскім асаднікам* (інф.). Заполле Кос., Хрышчонавічы Квас.

АСАЎЧЫ́К м. лес. Юкавічы Стайк.

АСЕ́ЛІЦА ж. луг. Аляксейкі Стайк.; паша. Быч Стайк., Бялавічы Кос.; сенажаць. Галік Міл.; луг. Грыўда Міл.; балота. Даргужы Міл.; паша. Жамайдзякі Міл.; поле. Закаплічча Дабром.; луг. *Выпас, сенажаць каля вёскі* (інф.). Заполле Кос.; балотца. Рацкевічы Міл.; луг каля вёскі. Скураты Квас.; луг. Старажоўшчына Кос.; паша. Сярадава Жытл.; поле. Хадакі Жытл.; паша. Хадоркі Кос.; выпас. Яблонка Жытл.

АСЕ́ЛІШЧА н. поле. *Бо пры сяле* (інф.). Була Міл., Вяценеўка Новадзяв. Слон.

АСЁЛАЧКА ж. грэбля. *Там даўней нізко было, брод, то людзі яе загацілі, грэбяльку паклалі. Асёлачка тое место называюць* (інф.). Хрышчонавічы Квас.

АСІНА́ ж. лужок. Азярцо Падст.; поле. Козіна Быц.; поле. Сенькавічы Падст.

АСІ́НА ж. лес. Волька Вольк.

АСІННІК м. лес. Була Міл.

АСІТАВЕ́Ц м. луг. *Дзецьмі хадзілі на Асітавец, шапкі сабе рабілі з сітняку* (інф.). Хадакі Жытл.

АСІТАЎКА ж. урочышча, у двух месцах ніўкі на 3 маргі 15 прутоў. Малая Гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 162–163).

АСКЛЯШО́Ў м. горка, балота. *Там была травяная мельніца* (інф.). Сялец Дабром.

АСО́БІЦА ж. урочышча, ніва на 4 маргі. Малая Гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 168–169); поле. *Старыя людзі казалі, што гэтае поле некалі раздавалі чымбарам, кавалям, асочнікам, лоўчым, якія прыслужвалі ў панскім двары* (інф.). Няхачава Стайк.

АСО́ВІК м. балота. Любішчыцы Люб.

АСО́ВЫ мн. востраў. Здзітаўская пушча Слон. пав. (Рэвізія пушчаў, 1559 г., 21).

АСО́ВЫ БОР м. лес. Малая Гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 157).

АСО́ВЫ ЛЕС м. лес. Вяда Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 116–117).

АСО́ЎЕ н. урочышча, ніўка. Малая Гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 153); паляна ў лесе. *Людзі кожным лапікам даражылі, кожну палянку засявалі* (інф.). Уласаўцы Жытл.

АСТА́ПКАВО н. балота. *Зараз тарфянік* (інф.). Хадакі Жытл.

АСТРАВА́ мн. поле. Вулька-Целяханская Целях.

АСТРАВЕ́Ц м. балота. Галік Міл.

АСТРАВО́К м. балота. Верашкі Квас.; поле. Волька Вольк.; востраў, на ім ніўка. Вяда Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 137); балота. Галік Міл., Падстарынь Падст., Юкавічы Стайк.

АСТРАВЫ́ мн. грады ўздоўж балота. Хрышчонавічы Квас.

АСТРАЎКІ мн. урочышча, ніва на 12 маргоў. Вяда Вядск. вол.; лес. Заполле Кос., Панкі Люб.; дарога, лес. Сяркі Навадзяв. Слон.

АСТРО́ЎКА ж. дарога. *Там даўней стаяла вёска Астроўка: так казалі старыя людзі* (інф.). Заполле Кос.

АСТРО́ЎКІ мн. лес. Сялец Дабром.; поле. Чамялы Вольк.

АСТРО́ЎНІЦА ж. балота. Альшаніца Квас.

АСТРО́ЎСКАЯ ж. дарога. Бусяж Слон. пав. (АВК, т. 22, 1570 г., 370); дарога. Заполле Кос.

АСТУПО́К м. лес. *Аступок, бо ў балото ўразаецца лес, бор* (інф.). Бялавічы Кос.; лес. *Аступок, бо лес акружаны балотом. Звычайна яловы лес расьце на аступку* (інф.). Ёдчыкі Квас.; лес. Заполле Кос.; востраў. *Кругом вострава нізко, гразко* (інф.). Хрышчонавічы Квас.

АСЯЛЕ́Ц м. луг, поле. Альшаніца Квас., Куляшы Міл.

АСЯРО́ДКІ мн. частка вёскі. Азярцо Падст.; частка вёскі. Любішчыцы Люб.

АЎСІШЧА н. поле. Мілейкі Міл.; урочышча. Пераваloцкая пушча Слон. пав. (Рэвізія пушчаў, 1559 г., 18).

АЎЧЫ́НЕЦ м. поле. *Там аўчынец стаяў даўней, гэдак і поле назвалі* (інф.). Быч Стайк., Дубітава Міл.

АЧКО́ЎКА ж. урочышча, востраў сярод балота. Вяда Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 120–121).

АШЧЫ́ТАЎКА ж. урочышча, у двух месцах 4 маргі. Малая Гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 166–167).

АШЫКО́ЎКА ж. частка вёскі. Любішчыцы Люб.

БАБАРО́ТА ж. урочышча, ніўка на 1 морг 20 прутоў. Вяда Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 118–119); круглае поле сярод лесу. Хадакі Жытл.

БА́БІН ГРУД м. поле. Аброва Абр.

БАБРО́ВІШЧА н. мясціна з бабровымі хаткамі на рацэ Фядоска. Заполле Кос.

БАБРО́ВЫ ГРУДО́К м. балота. Заполле Кос.

БАБРО́ЎКА ж. рэчка. Клепачы Варан. Пруж.

БА́БЦЯ ж. лес. *Графа Патоцкага маці пажадала, каб яе пахавалі ў лесе, у мураваным склепе* (інф.). Козіна Быц.

БА́БЧЫНЭ н. лес, балота. Святая Воля Святав.

БАГІ́НСКАЕ н. месца на рэчцы Фядоска. Бялавічы Кос.

БАГНЕ́ЧОК м. азярцо. *І рыба там вадзілася, але цяжко было да вады дабрацца: надто грузко* (інф.). Даргужы Міл.

БАГО́Н м. лес, балота. Еськаўцы Варан. Пруж.

БАДЗЯ́ЎШЧЫНА ж. поле. Баравікі Новадзяв. Слон.

БАЖДАЁВА ГАРА́ ж. горка. Аляксейкі Стайк.

БА́ЗА ж. частка калгаснага двара. *База ў нас пад тапалямі, там вазы стаялі, хамутнік* (інф.). Заполле Кос.; найменне хутара. Югалін Дабром.

БАЗЫЛЁВА ГО́РКА ж. пагорак. Руда Падст.

БАЙБАКО́Ў ГРУД м. сенажаць. Боркі Падст.

БАЙДУ́Н м. поле. Хадоркі Кос.

БАЙКО́ЎСКАЕ н. поле. *Няма таго сяла Байкі, немцы панішчылі, адно поле засталося* (інф.). Клепачы Варан. Пруж.

БАЙТУХО́ВА БЛІЗНІ́ЦА ж. востраў, ніўка на ім. Аброва Абр.

БАКАВЕ́Ц м. лес. *Некалі там стаяла лесьнічоўка, а прозьвішча лесьніка было Бакавец* (інф.). Падстарынь Падст.

БАЛАХО́ЎКА ж. быў хутар у лесе, поле. Магіліцы Вольк.

БАЛАХО́ЎШЧЫНА ж. балота. Грынкоўшчына Новадзяв. Слон.

БАЛАЧО́ЎШЧЫНА ж. лес. Гладышы Міл.

БАЛВЕ́РАЎШЧЫНА ж. фальварак. Кос. вол. Слон. пав. (АВК, т. 14, 1597 г., 617).

БАЛО́ТА н. урочышча, ніўка. Вялікая Гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 148); драбналессе, забалочаная нізіна. Сасновы Бор Дабром.; вялікі абшар балота.

*У гэтую плошчу ўваходзілі казённае балота, а таксама забалочаныя землі аброўскага памешчыка Дзюрлікоўскага аж да граніцы з вёскай Спорава* (са слоў інфарманта запісаў складальнік). Турная Святав.

БАЛО́ТО н. частка вёскі Вулькі-Целяханскай. Вулька-Целяханская Целях.

БАЛО́ТЦО н. балота. *Там нізко, вада ні высыхая і ў сухі год* (інф.). Заполлė Кос., Галынка Міл.

БАЛО́ЦЕНСКАЕ н. лес. Манцюты Быц.

БАЛО́ЦІНА ж. нізкае, куп'істае месца на балоце. Чамялы Вольк.

БАМБЕ́РАЎКА ж. балотца. Альба Квас.

БАНАДЫ́СЕВО н. лужок, поле. Заполле Кос.

БАНІФА́ЦАВЫ ДЗЯ́ЛКІ мн. поле. Хадоркі Кос.

БАНКО́ВО н. поле. Куляшы Міл.

БАРАБА́НОВ ГРУДО́К м. балота. Глінная Амяльн.

БАРАВА́Я ж. урочышча, ніўка на 1 морг 10 прутоў. Вяда Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін., ст., 1561–1566 гг., 118–119); дарога. Дабрынёва Даман.

БАРАВА́Я НІ́ВА ж. поле. Коланск Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 176–177).

БАРАВІКІ́ мн. поле. *Некалі было сяло. За тое, што дапамагалі паўстанцам Каліноўскага, цар расьсяліў людзей. Засталіся ад сяла толькі моглiцы* (інф.). Хрышчонавічы Квас.

БАРАВІКО́ВА ж. дарога. *Дарога ішла міма хутара чалавека па мянушцы Баравік* (інф.). Заполле Кос.

БАРАВІ́НА ж. лес, а некалі было поле. *Зрэзалі лес, хваёвы, баравы, вырабілі на поле. Баравая зямля ўрадлівая, надто жыто харошае расло. Даўней так рабілі: давалі карыстацца тою зямлёю тры гады. Чалавек вырабіць яе, выпытлюе, а тады пасадку, новы лес садзяць* (інф.). Бялавічы Кос.; балота, востраў сярод балота ў бок Івацэвічаў. Вяда Выган.; урочышча, пяць нівак. Вяда Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец.

княст., 1554 г., 136; Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 114–115); востраў, груд сярод балота, парослы хваёвым лесам. Гіцыцы Ягл.; лес. *Ідзеш па лесі. Дзе нізко, там альшына, бяроза расьце, а вышэй – хваіна* (інф.). Харошча Міл.

БАРАВІНÓ н. поле, лес. Козікі Коз.

БАРАВІЦКІ БРЫЧÁЧ м. лес. Хрышчонавічы Квас.

БАРАВІЦКІ ГАСЦІНЕЦ м. гасцінец. *Назвалі гасьцінец Баравіцкім, бо ішоў каля вёскі Баравікі, якой цяпер няма* (інф.). Бялавічы Кос.

БАРАВÍЧКІН ЛУГ м. луг. Хадоркі Кос.

БАРАВЫ́ м. лужок у лесе. Азярцо Падст.

БАРАВЫ́ ЛОГ м. лужок. Падстарынь Падст.

БАРÁК м. лес. *Будыніна, якая стаяла каля разьезда вузкакалейкі* (інф.). Заполле Кос.

БАРÁКІ мн. урочышча. *У 1915 году стоялі немцы, булі іхні баракі* (інф.). Краі Рэчк.

БАРÁН м. урочышча. Выганашчы Выган.

БАРÁНАВІЧЫ мн. частка вёскі. Дабромысль Дабром.

БАРÁНАЎШЧЫНА ж. лес. Залессе Жыров. Слон.

БАРАНІЎКА ж. поле. *Баравая зямля ўрадлівая: там даўней лес быў* (інф.). Галенчыцы Ягл.

БАРÁННЕ н. поле. Краі Рэчк.

БАРАНÓВА ГАРÁ ж. поле. *Прозьвішча чалавека было Баран* (інф.). Квасевічы Квас.

БАРÁНОВСКОЕ н. лес. Бабровічы Выган.

БАРАНÓЎСКАЕ н. поле, лес. Сялец Дабром.

БАРАНЧУКÓВА ж. сенажаць. Гошча Амяльн.

БАРАНЫ́ мн. лес, поле. Выганашчы Выган.

БАРАЎКÓВЭ н. лес. Бялавічы Кос.

БАРÁЦКІ ЛУГ м. лужок. *Луг, нізінка, упадзіна ў лесе, побач з якім стаяў барак, будан* (інф.). Заполле Кос.

БАРДЗЁЛАЎШЧЫНА ж. поле. Заполле Кос.

БАРДО́ЎШЧЫНА ж. урочышча, ніўка. Малая Гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 156).

БАРДЫ́ШАЎКА ж. лес. Панкі Люб.

БАРКІ́ мн. лес. Жытлін Жытл.; поле. Заполле Кос., Панкі Люб.

БАРО́ЗОВ м. балота. *Бароза – гэто бяроза* (інф.). Бабровічы Выган.

БАРО́К м. лес. *Некалі ў 1940 годзе ставілі салдаты на горачцы ў Барку маяк, капалі ямы, то наткнуліся на косьці. Там, відаць, быў курган* (інф.). Ёлкі Ягл.; поле. Жытлін Жытл.; лес. *Востраў, узвышэньне сярод балота, парослае сасновым лесам* (інф.). Заполле Кос.; лес пад былую вёску Зацішша. Няхачава Стайк.; поле. Пагор'е Быц.; лес. Сярадава Жытл.

БАРО́ЎСКАГА ХВО́ЙНІК м. лес. Гошчава Стайк.

БА́РСКЕ н. балота. Бялавічы Кос.

БАРСУКІ́ мн. поле. Гошчава Стайк.; лес. Козікі Коз.; поле. Краі Рэчк.; было поле, цяпер лес. Няхачава Стайк.

БАРСУКО́ВА ГАРА́ ж. узгорак. Козікі Коз.

БАРСУЧЫ́НА н. груд сярод лесу. Закаплічча Дабром.; поле, балота. Сялец Дабром.

БАРТКІ́ мн. лес. *Казалі людзі, што даўней у тым лесі расьлі разгалістыя сосны, на якіх ладавалі пчаліныя калоды. Барткі – лес верасовы, чабаровы. Узятак пчолам быў багаты* (інф.). Корачын Жытл.; частка вёскі. Мілейкі Міл.

БАРЦЫ́ мн. лес. Закаплічча Дабром.

БАРЫНА́ ж. палетак. *Там усё расло: і жыто, і ячмень. А як лубін сеялі, то касу было ні пацягнуць* (інф.). Альшаніца Квас.; урочышча, тры ніўкі. Вяда Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 136; Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 114–115).

БАРЫ́САЎШЧЫНА ж. цяпер поле, быў лес. Галенчыцы Ягл.; поле. Харошча Слон. пав. (Бел. у эпоху феад., т. 1, 1631 г., 248).

БА́РЫШАВА н. балота. Грыўда Міл.

БАРЭ́ЙШЫН ГРУД м. лес, узгорак у лесе. *Мянушка ў чалавека была Барэйша* (інф.). Заполле Кос.

БАРЭ́ЦКА ж. дарога. Сярадава Жытл.

БАРЭ́ЦКАЕ н. найменне лясніцтва. Кушняры Падст.

БАТЛЁЎКА ж. горка. Воля Жытл.

БАТУ́РЫН ЛЯСО́К м. лес. Руда Падст.

БАХАЛКО́ВО н. поле. *Хутор буў, і хуторанец меў клічку Бахалко* (інф.). Целяханы.

БА́ЦЬКАВО н. поле. Куляшы Міл.

БАШЧЫ́ХА ж. поле. Хадоркі Кос.

БАЯ́Р'Е н. частка вёскі. Загалічы Паўл. Пруж.

БАЯ́РСКІ ГРУД м. балота. *Узвышэньне налево ад дарогі, што ідзе з Мілеёк на Лазаўцы. Гэто, мусіць, хутчэй будзе курган* (інф.). Мілейкі Міл.

БАЯ́РЫ мн. частка вёскі. Азярцо Падст., Галік Міл.

БЕ́ГАНІЦА ж. поле. Астравок Варан. Пруж.; балота, поле. Верашкі Квас.

БЕ́ГАНКІ мн. воступ. Аброва Слон. пав. (Рэвізія пушчаў, 1559 г., 15).

БЕ́ГАНЬ м. востраў, парослы лесам. Вулька-Аброўская Коз.; востраў. Здзітаўская пушча Слон. пав. (Рэвізія пушчаў, 1559 г., 21); было балота, цяпер тарфяное поле. *Людзі там хаваліся ў царскую вайну* (інф.). Хадакі Жытл.

БЕ́ЁВ ОЛЬХО́ВЭЦ м. востраў. Аброва Абр.

БЕЛАНЫ́ мн. балота. Сяркі Новадзяв. Слон.

БЕ́ЛАЯ ГАРА́ ж. узгорак. Вялікая Гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 156–157).

БЕ́ЛАЯ ГОРА́ ж. узгорак. *З-под горы цекла крыніца, воду пілі* (інф.). Вялікая Гаць Святав.

БЕ́ЛІН м. сухадолае балота. *Белін – тупкае балото. Е лысіны белаго моху, сітняку. Як макраваты год, і добраго сена*

*накосіш* (інф.). Харошча Міл.; воступ. Пушча Слонімская Загрывецкая Слон. пав. (Рэвізія пушчаў, 1559 г., 15).

БЕ́ЛЫ КРЫЖ м. поле. Квасевічы Квас.

БЕ́ЛЫ МОХ м. балота. Ёдчыкі Квас.; лес. Квасевічы Квас., Чамялы Вольк.

БЕ́ЛЬКАЎШЧЫНА ж. поле. Сенькавічы Падст.

БЕЛЯКО́ВА ГАРА́ ж. узгорак. *Там курган даўнейшы* (інф.). Верчыцы Варан. Пруж.

БЕЛЯМО́Х м. лес. *Як будаваліся, то езьдзілі ў той лес, рвалі белы мох, клалі паміж бярвеньнямі* (інф.). Квасевічы Квас.

БЕ́РАГ м. сенажаць паўз Шчары. Волька Вольк.

БЕРАЗАВЕ́Ц м. воступ. Любішчыцкая пушча Слон. пав. (Рэвізія пушчаў, 1559 г., 23); груд сярод балота. *На тым грудку бярозы расьлі, туды хадзілі вецьце бярозавае ламалі, венікі вязалі* (інф.). Любішчыцы Люб.

БЕРАЗЕ́ЦІНА ж. воступ. Бялавіцкая пушча Слон. пав. (Рэвізія пушчаў, 1559 г., 23).

БЕРАЗІНА́ ж. лясок. Гарбачы Навадзяв. Слон.; поле. Пагор'е Быц.; лес. *Гэта стары бярозавы лес* (інф.). Партызанаўка Навадзяв. Слон., Таўцвілы Варан. Пруж., Уласаўцы Жытл.

БЕРАЗІНО́ н. балота. Грыўда Міл.; поле. Заполле Быц.

БЕРАЗО́Ў м. воступ. Любішчыцкая пушча Слон. пав. (Рэвізія пушчаў, 1559 г., 18).

БЕ́РВА мн. балота. *Ішлі далёко ў балото. То каб ні патаміцца, каб лягчэй было нагам, клалі жэрдзя. Яго бервамі называлі. Адсюль і назва балота пайшла – Берва* (інф.). Альшаніца Квас.; балотца. *Уздоўж кладкі драўляныя клалі, каб прайсьці* (інф.). Ёдчыкі Квас.

БЕ́РВАЧКІ мн. балота. Бялавічы Кос.; лес. Хрышчонавічы Квас.

БЕ́РВЫ мн. урочышча. Малая Гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1559 г., 158); балота. Турная Святав.

БЕ́РКІ мн. лес. Гутка Рэчк.

БЕРО́ЗОВЕ н. балота. Выганашчы Выган.

БЕРО́ЗОВО СТО́ЙЛО н. балота. Рэчкі Рэчк.

БЕ́РОСТА ж. поле. Краі Рэчк.

БЕРЭЗІНА́ ж. лес. Вулька-Аброўская Коз.; быў лес, цяпер тарфянік. Целяханы.

БЕСЕ́ДКІ мн. востраў. Вулька-Аброўская Коз.

БЕСХЛЕ́БІЦА ж. неўрадлівае поле, адзін пясок. Соміна Целях.

БЕТАНЯ́РНЯ ж. гара. *Некалі там рабілі чарапіцу, трубы на калодзеж* (інф.). Косава.

БІ́РВЫ мн. урочышча, ніва на 4 маргі 20 прутоў. Бабровічы Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 132–133).

БЛАЖУНО́ВО н. поле. *Жыў хутаранец. Хлопчыкі-пастушкі далі яму мянушку Блажун* (інф.). Грыўда Міл.

БЛЕНДА́ЖЫКІ мн. лес. *Стоять там бетонные блендажы* (інф.). Выганашчы Выган.

БЛІЗНІ́ЦА ж. востраў, ніўка на ім. Аброва Абр.; поле. *Бало, з Блізніцы за адзін дзень пазвожу снапы ў гумно, бо блізко ад сяла* (інф.). Заполле Кос., Коланск Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1555 г., 159), Коланск Амяльн.

БЛІЗНІ́ЦЫ мн. поле. Азярцо Падст.

БЛЯШНЯ́К м. балота. Руда Падст.

БОБО́ВКІ мн. востраў, ніўка на ім. *Пасля бобу застаўся бабоўнік, по-нашом – бобэвнік* (інф.). Турная Святав.; поле. *Е зелле такэе – бобовнік* (інф.). Аброва Абр.

БОБРО́ВІНЭ н. лес. Гутка Рэчк.

БОБРО́ВІЦКЕ н. возера. Бабровічы Выган.

БОБРО́ВІЦКЭ н. лес. Выганашчы Выган.

БОБРО́ВОЕ н. урочышча. Доўгая Святав.

БОБРО́ВЭЦЬ м. балота. Бабровічы Выган.

БО́БРЫКІ мн. сяльцо. Кос. вол. Слон. пав. (АВК, т. 14, 1597 г., 617).

БО́ЛБАТАВО н. палянка ў лесе. Жытлін Жытл.

БОЛО́ТО н. частка вёскі. Вулька-Целяханская Целях.

БОЛЭ́ТЦЭ н. балотца. Турная Святав.

БО́НДА ж. поле. *Майго суседа жонка брыдкая была, касая. Ён узяў яе за зямлю, якую далі ў прыданае, ажно тры гектары. І зараз тое поле Бондай называюць* (інф.). Заполле Кос.

БОР м. лес. *Сасновы, чысты* (інф.). Бараны Ягл.; лес. Амяльная Амяльн.; лес, поле. Вяда Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 136); поле, лес. Воля Жытл.; Вялікая Гаць Святав.; лес, поле. *Усякі лес: і хваёвы, і зьмешаны, каб толькі сухо было пад нагамі – гэта бор* (інф.). Дабрынёва Даман.; лес. Міронім Быц., Міхнавічы Стайк.

БО́РАК м. было поле, балота, цяпер частка вёскі. Быцень Быц.

БОРДО́ВСКЕЕ н. балота. Выганашчы Выган.

БО́РКІ мн. воступ. Бялавіцкая пушча Слон. пав. (Рэвізія пушчаў, 1559 г., 23); лес. Яблонка Жытл.

БО́РЛІНЫ мн. лес. *Там хвойкі расьлі назьдзіў. Даўней, казалі, з іх лодкі рабілі* (інф.). Бялавічы Кос., Загалічы Паўл. Пруж.

БОРОВІ́НА ж. палянка, ніўка сярод лесу. Вяда Выган.; востраў, лес. Вялікая Гаць Святав.

БОРСУ́К м. востраў, ніўка на ім. Аброва Абр.

БОРСУКІ́ мн. лес. Турная Святав.

БО́РТНІЦКАЕ н. лес. Хрышчонавічы Квас.

БОРШЧАВІ́ЦА ж. драбналессе. Аброва Абр.

БО́РЫН м. востраў сярод балота, ніўкі на ім. Вяда Выган., Гічыцы Ягл.

БОРЫ́СКОВЭ н. балота. Соміна Целях.

БОРЭ́ мн. лес. Вулька-Целяханская Целях.

БО́ЎТАЕ ПО́ЛЕ н. лес. Галенчыцы Ягл., Яглевічы Ягл.

БО́ЦІШЧА мн. ніўка паміж Вялікай Гаццю і Абровам. Вялікая Гаць Святав.

БО́ЦІШЧЫ мн. урочышча, ніўка там. Вяда Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 135); грузкае балота. *Там вада стаяла, але як яе станавіласё мало, то ўюноў лавілі* (інф.). Уласаўцы Жытл.

БО́ЧВІШЧЫ мн. урочышча, сем нівак там. Вяда Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 116–117).

БО́ЧКІ мн. палетак. *Даўней мера збажыны называлася бочка. Адной бочкай засявалі морг зямлі* (інф.). Жамайдзякі Міл.

БО́ЯР'Е н. частка вёскі. Лазаўцы Міл.

БРАВА́РЫСКО н. балота. *Некалі бровар там стаяў, бо і зараз камяні трапляюцца* (інф.). Боркі Падст.

БРАДО́К м. лес. *Нізкае, грузкае месца ў лесе* (інф.). Альшаніца Квас.; частка дарогі. *Вельмі грузко там, памагалі людзі коням выцягваць вазы з сеном* (інф.). Заполле Кос.; урочышча. Малая Гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 158); балота. Сяркі Новадзяв. Слон.; лес. Яблонка Жытл.

БРАДЫ́ мн. нізкія месцы на дарозе на Бронную Гару. Бялавічы Кос.; забалочаны лес. Турная Святав.

БРА́МА ж. лес. Сяркі Новадзяв. Слон.

БРО́ВАРЫСКО н. урочышча. *Месца, дзе быў панскі бровар* (інф.). Альшаніца Квас., Боркі Падст., Косава, Харошча Міл., Турная Святав.

БРОД м. месца на рэчцы Мутвіца. Косава; поле. Лазаўцы Міл.; балота. Шчытна Варан. Пруж.

БРО́ДНА н. брод. *Грузкае месца на дарозе* (інф.). Ёдчыкі Квас.; урочышча. Клепачы Варан. Пруж.

БРЫ́СКАВІ́ЧЫ мн. лес. Хадакі Жытл.

БРЫ́ЧАВА ГАРА ж. лес. Козікі Коз.

БРЫЧА́Ч м. лес. Альба Квас.; забалочаны лес. *Нізко там, лахачоў много, журайлін* (інф.). Хрышчонавічы Квас.

БУ́ДА ж. поле. Аброва Абр.; лес. Гутка Рэчк.

БУ́ДКА ж. лес. Хадакі Жытл.

БУ́ДНІКІ мн. дарога, лес. Сялец Дабром.

БУ́ДЫ мн. лес. *Там дайней стаялі буды, жылі людзі. Яны смалу пераганялі, выпальвалі драйняны вугаль. Ад таго месца ано ямы засталіся, а лес і зараз называяцца Буды* (інф.). Корачын Жытл., Хадакі Жытл.

БУКАЧО́ВО н. востраў, ніўкі на ім. Гошча Амяльн.

БУКШЭ́ мн. частка вёскі. Жамайдзякі Міл.

БУЛА́ТАЎШЧЫНА ж. лес. Малы ГалікНовадзяв. Слон.

БУ́ЛЕНКАВАЕ н. балота. *Бо касілі яго людзі з Булы* (інф.). Плехава Люб.

БУ́ЛЕНСКАЯ ж. дарога. *Дарога да вёскі Була* (інф.). Грыўда Міл.

БУ́ЛЬБІНА ТО́НЯ ж. месца на рэчцы Грыўда. Сенькавічы Падст.

БУ́ЛЬСКАЯ ПУ́ШЧА ж. вялікі абшар лесу. Слон. пав. (Рэвізія пушчаў, 1559 г., 18).

БУ́МБІНО ПРА́ЦІВО н. балота. *Жыў хутаранец, мянушка ў яго была Бумба* (інф.). Дубітава Міл.

БУРЖУ́ЙКА ж. частка пасёлка. Зялёны Бор Стайк.

БУ́СЕЖ ж. рака. Кос. вол. Слон. пав. (АВК, т. 22, 1566 г., 323).

БУ́СЛАЎКА ж. балота. Юндзілы Паўл. Пруж.

БУСЛО́ЎКА ж. дарога. *Сасна расла, вецер зламаў, бусел гняздо зьвіў, так дарогу і пачалі зваць* (інф.). Любішчыцы Люб.

БУСЛЫ́ мн. было поле, цяпер калгасны двор. Рудня Рэчк.

БУ́СЯЖ ж. рака. Бусяж Міл.

БУ́СЯЖСКАЯ ж. *Дарога, якая вядзе да вёскі Бусяж* (інф.). Галік Міл.

БУ́СЯЖСКІЯ РЭ́ЗКІ мн. балота. Любішчыцы Люб.

БУ́ТАРАВО н. балота. *Цяпер тарфянік* (інф.). Няхачава Стайк.

БУТРЫ́НАЎКА ж. поле, лес. Буцькі Варан. Пруж.; рэчка. Еськаўцы Варан. Пруж.

БЫЛІ́Н м. поле. Корачын Жытл.

БЫ́СТРЫЦА ж. поле. *Вясною, калі растае сьнег, і летом у навальніцу там вада бурліць, цячэ* (інф.). Гічыцы Ягл.

БЫТЭНШЧЫ́ЗНА ж. лес. Чамялы Вольк.

БЫЦЕ́НСКАЕ н. балота. *Належала вёсцы Быцень* (інф.). Вуглы Быц.

БЫ́ЦЕНСКАЯ ж. *Дарога, якая вядзе ў вёску Быцень* (інф.). Сасновы Бор Дабром.

БЫЧО́К м. балота. Горталь Целях.; востраў, ніўка на ім. Вялікая Гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 146); было поле, цяпер лес. Вялікая Гаць Святав.; лес. Коланск Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1555 г., 161); поле. Святая Воля Святав.

БЭ́МБІНА СЕНАЖА́ЦЬ ж. балота. Жытлін Жытл.

БЭ́НЦАЛЕВО СТУ́БЛО н. балота. Була Міл.

БЭР м. лес. Турная Святав.

БЭРАЗІНА́ ж. балота. Глінная Амяльн.

БЭРЦА́ н. балотца. Аброва Абр.

БЭРЭВЕ́ЦКАЯ НІВА ж. поле. Аброва Абр.

БЭРЭЗІНА́ ж. лес, балота. Амяльная Амяльн.

БЭРЭЗІНСКІ ПЛАВ м. азярцо ў балоце. Аброва Абр.

БЭРЭ́СЦЕНКА ж. лес. Бабровічы Выган.

БЯ́ДЗІНАЕ н. поле. *Быў хутар чалавека па мянушцы Бяда* (інф.). Заполле Кос.

БЯЗРЫ́БНАЕ н. месца на рэчцы Грыўда. Халап'я Падст.

БЯЛА́ВІЦКАЯ ж. *Дарога, якая ішла з вёскі Бялавічы ў вёску Ятвезь* (інф.). Ёдчыкі Квас.

БЯЛА́ВІЦКАЯ ПУ́ШЧА ж. абшар лесу. Бялавічы Слон. пав. (Рэвізія пушчаў, 1559 г., 23).

БЯЛА́ВІЦКІ м. лес. *Увесь лес за вёскай Бялавічы* (інф.). Заполле Кос.

БЯЛА́ВІЦКІ БОР м. лес. Бялавічы Кос. вол. Слон. пав. (АВК, т. 14, 1597 г., 617).

БЯНДЗЮ́ГА ж. месца ля ракі Грыўда. *Звозілі зімою лес да Грыўды, а па вясьне сплаўлялі. Тое место называлі Бяндзюга* (інф.). Грыўда Міл.; балота, лес. Доўгае Быц.; лес. *Месца каля ракі Шчары, куды звозіўся лес для сплаву* (інф.). Міронім Быц.; балота. Пагор'е Быц.; лес. Чамялы Вольк.

БЯНКО́ЎШЧЫНА ж. поплаў, сенажаць. Бусяж Слон. пав. (АВК, т. 22, 1559 г., 95).

БЯРЛО́ЖНАЕ н. лес. *Там логавы ваўкоў, дзікоў прыстанішча* (інф.). Яглевічы Ягл.

БЯРЛО́ЖНЫ м. лес. Галенчыцы Ягл.

БЯРЛО́ЖНЫЯ мн. лес, грудок у лесе. Майск Люб.

БЯРО́ЗАВА ДУБРА́ВА ж. балота. *На востраве расьлі дубы, а кругом бярозы* (інф.). Няхачава Стайк.

БЯРО́ЗАВЕЦ м. лес. Чамялы Вольк.

БЯРО́ЗАВЫЯ МАСТЫ́ мн. лес. Бялавічы Кос.

БЯРО́ЗАЎСКІ ТРАКТ м. дарога. Бялавічы Кос.

БЯРО́ЗАЎ СНОП м. лес. Волька Вольк.

БЯРЧО́ЎКА ж. урочышча, ніва на 13 маргоў. Малая Гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 166–167).

БЯРЭ́ЖКІ мн. балота. Руда Падст.

БЯРЭ́ЗІНКА ж. лес. Залессе Жыров. Слон.; балота. Мілейкі Міл.

БЯРЭ́ЗНІК м. лес. Аляксейкі Стайк.

БЯРЭ́ЗНІКІ мн. поле. Падстарынь Падст.

БЯСХЛЕ́БІЦА ж. поле. *Бо на ім нічого ні расло* (інф.). Косава.

ВАЕ́ННАЯ ж. дарога. Заполле Быц.

ВАЕ́ННАЯ ТРЫ́БА ж. прасека. Харошча Міл.

ВАЕ́ННЫ м. лес. Манцюты Быц.

ВАЕ́ННЫ ТРЫБ м. прасека. *Кажуць, што рабілі аблаву на паўстанцаў Каліноўскага і на гэтым трыбе стаялі ваенныя* (інф.). Сенькавічы Падст.

ВАЛАСА́Ч м. балота. *Бацько мой казаў на дзялку з добраю густою травою валасач. Жартаваў: "Валасач, столькі травы, як у маладого на галаве"* (інф.). Няхачава Стайк.

ВАЛАХО́ЎСКІ МОСТ м. мост на дарозе Бялавічы – Косава. *Названы ад прозьвішча Валах* (інф.). Бялавічы Кос.

ВАЛІ́СКОЕ н. балота. *Карысталіся балотам людзі з вёскі Валішча* (інф.). Горталь Целях.

ВАЛО́ВІК м. грэбля на балоце. *З Вільні праз Бялавічы на Валынь ішла дарога. То дзе нізко, гаць гацілі, пясок, жвір насыпалі. Тое место Валовіком называюць* (інф.). Бялавічы Кос.

ВАЛО́ВІКАВО н. поле. Заполле Кос.

ВАЛО́ВЫЯ ЛЯСКІ́ мн. лес. Коланск Амяльн., Коланск Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1555 г., 159).

ВАЛО́ЗАЎСКА ж. дарога. Харошча Міл.

ВАЛО́ГА ж. балоцісты лес. *Ямы на дарозе ў лесе валогамі называлі, усё гальлём стараліся загаціць. І лес Валогаю называюць* (інф.). Харошча Міл.

ВАЛО́КА ж. поле. *Даўней уся зямля была памерана на валокі. Адна валока раўнялася дваццаці гектарам. Зараз валокамі ні мераюць, адно ў назвах гэто слово і засталося* (інф.). Бялавічы Кос., Прыбарава Быц.

ВАЛО́КІ мн. поле. Жытлін Жытл., Міронім Быц.; поле. *Даўней мералі поле, абшар на валокі. Валока была больш за дваццаць гектараў* (інф.). Сярадава Жытл.

ВАЛЬВАШО́Ў ГРУД м. востраў. *Гэта грудок сярод балота, парослы лесам. Там было некалькі старых дубоў* (інф.). Галенчыцы Ягл.

ВАЛЮКО́ВА ІГРУ́ША ж. поле. Юкавічы Стайк.

ВАЛЮ́Ш м. балота. *Млын на рэчцы Грыўда быў, у якім і сукно валялі* (інф.). Азярцо Падст.

ВА́НЦАЎ МОХ м. лес. Югалін Дабром.

ВАНЮ́ЧАЯ ВАДА́ ж. урочышча, ніва на 3 маргі дрэннай зямлі. Бабровічы Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 143).

ВА́ПНАЯ ГАРА́ ж. горка. Аляксейкі Стайк.

ВАРО́НІН ЛЕС м. воступ. Бялавіцкая пушча Слон. пав. (Рэвізія пушчаў, 1559 г., 24).

ВАРО́НІНО н. поле. Скураты Квас.

ВАРО́ТЦЫ мн. урочышча, ніва. Вяда Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 137); ніва на 7 маргоў. Вялікая гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 126–127); балота. *Варотцы, ці шыя, казалі на вузкае места ў балоці, заціснутае з абодвух бакоў лесом* (інф.). Івацэвічы.

ВАРО́ТЦЫ ДЗЯНІ́СКАЎШЧЫНЫ мн. урочышча, ніва. Вяда Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 140).

ВАРО́ТЫ мн. урочышча, ніўкі на 4 маргі. Вяда Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 116–117, 126–127); ніва. Коланск Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1555 г., 160).

ВАСІЛЕ́ВА ж. ніва на 11 маргоў. Вяда Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 118–119).

ВАСІЛЁВА НІ́ВКА ж. было поле, цяпер лес. Рэчкі Рэчк.

ВАСІЛЬКО́ВЕ н. лес. Выганашчы Выган.

ВА́СКАЎШЧЫНА ж. паша. *Кругом поле, а тут ні гаруць, нізко, крыніца ёсьць* (інф.). Хадоркі Кос.

ВА́СЬКАЎШЧЫНА ж. поле. Косава.

ВАСЬКО́ВО н. балота. Була Міл.

ВАЎЧАЛА́ПКА ж. рачулка. *Цячэ і па вуліцы вясковай* (інф.). Міронім Быц.

ВАЦО́ЎСКА ж. дарога. *Яна ідзе да Івацэвіч* (інф.). Харошча Міл.

ВАЦО́ЎСКАЕ н. балота. *Бо недалёка ад Івацэвіч* (інф.). Стайкі Стайк.

ВЕЛІ́КЕ КРУ́ГЛОЕ н. балота. Доўгая Святав.

ВЕЛІ́КІ БЭР м. лес. Выганашчы Выган.

ВЕЛІ́КІ БОР м. лес. Горталь Целях.

ВЕ́ЛІКІ ЖДЖАР м. балота. *Жджар, по-нашому гэто балэтцо серод лесу. Воно глыбокое, з высокой купой, расьце густы разак* (інф.). Выганашчы Выган.

ВЕЛІ́КІЙ Я́МЕНЕЦ м. балота. Святая Воля Святав.

ВЕЛІ́КІ ЛЕС м. лес. Доўгая Святав.

ВЕЛІ́КІ Я́МЭНЭЦ м. востраў сярод балота. *Остроў, а посерэд его – глыбока яміна* (інф.). Турная Святав.

ВЕЛІХАВЕ́Ц м. лес, ніўка. Вяда Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 135; Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 120–121); востраў. *У Стублах е вялікі востраў, Веліхавец называлі. Там людзі жылі, гаралі, сеялі на том востраві* (інф.). Ёдчыкі Квас.

ВЕ́ЛЬКАЕ ПО́ЛЕ н. лес. Закаплічча Дабром.

ВЕ́ЛЬКІ АСТРАВЕ́Ц м. воступ. Бялавіцкая пушча Слон. пав. (Рэвізія пушчаў, 1559 г., 23).

ВЕ́ЛЬКІ БРОД м. брадок. Заполле Кос.

ВЕ́ЛЬКІ ЛЕС м. лес. Волька Вольк.

ВЕ́ЛЬКІ МОХ м. лес. Міхнавічы Стайк.

ВЕ́ЛІКОЕ ПО́ЛЕ н. было поле, цяпер лес. Турная Святав.

ВЕРАБ’ЁЎШЧЫНА ж. поле. Грыўда Міл.

ВЕРАМЕ́ЕЎКА ж. лес. *Немцы ў 1915 гаду праклалі туды вузкакалейку і вывозілі адтуль адборны, сьпелы лес* (інф.). Бялавічы Кос.

ВЕ́РАС м. поле. Жытлін Жытл.

ВЕРАСНО́Ў м. лес, балота. Козікі Коз.

ВЕРАЦЕ́ЙКІ мн. урочышча. Вялікая Гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 148); балота. *Гэто балото было сухое, людзі ўмудраліся разрабіць яго на поле. Надто ячмень на тарфяніку харошы рос* (інф.). Гічыцы Ягл.

ВЕРАЦЯЁ мн. балота, лес. *Нізкае, мокрае месца ў балоце* (інф.). Заполле Кос.; *Забалочаная ўпадзіна ў лесе* (інф.). Заполле Кос.; груд. *На груд Верацяе гаварылі, будыны на ём ставілі, як касілі* (інф.). Корачын Жытл.

ВЕРАШКО́ЎСКАЯ ж. *Дарога, якая вядзе да вёскі Верашкі* (інф.). Куляшы Міл.

ВЕРАЯ́ ж. поле. Соміна Целях.

ВЕРБА́ ж. лес, балота. Рэчкі Рэчк.

ВЕРБІНА́ ж. частка ракі Грыўда. Дабрынёва Даман.

ВЕ́РБНАЯ ж. былое найменне вуліцы. Быцень Быц.

ВЕРСТАВЫ́Я мн. балота. Яблонка Жытл.

ВЕРХ м. поле. Астравок Варан. Пруж., Волька Вольк.; урочышча, ніўка. Вяда Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 136); лес. Малая Гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 152); горка. *Дзе Верх, то там надто каменьня много* (інф.). Харошча Міл.; выток Грыўды. *За нашым сялом пачынаецца рака Мізгіроўка. Тое месца называюць Вярхом* (інф.). Галік Міл.

ВЕРХ ДУБІ́ТАЕ м. воступ. Бялавіцкая пушча Слон. пав. (Рэвізія пушчаў, 1559 г., 23).

ВЕРХ ЛІНАЎЦА́ м. урочышча. Малая Гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 155).

ВЕРХ ЛОЗ м. поле. *По дороге на Бытень* (інф.). Харошча Слон. пав. (Бел. у эпоху феад., т. 1, 1631 г., 248).

ВЕРХ МХА м. урочышча. Малая Гаць Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 157).

ВЕРХ РЭ́ЧКІ м. поле. Пагор'е Быц.

ВЕРХ ЦЁМНАЕ м. воступ. Ласасінская пушча Слон. пав. (Рэвізія пушчаў, 1559 г., 23).

ВЕ́РЫЯ н. балота. Вулька-Целяханская Целях.

ВЕРЭСАВА́ТАЕ н. востраў. Святая Воля Святав.

ВЕ́ТРЫЛА н. балота. Вулька-Целяханская Целях.; балота, лес. Выганашчы Выган.; урочышча, ніва на 11 маргоў. Вяда Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. і Клец. княст., 1554 г., 137; Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 120–121); балота. *Ветрыла – балото вялікае, прасторнае. Там хутко сено сохне, бо вецяр гуляя* (інф.). Гічыцы Ягл.

ВЕТРЫ́ЛІЦА ж. ніўка на 1 морг 15 прутоў. Вяда Вядск. вол. (Пісц. кн. Пін. ст., 1561–1566 гг., 120–121).

ВЗДУ́ХА ж. поле. *Там месца ёсьць, якое ніколі ні высыхая* (інф.). Альшаніца Квас., Куляшы Міл.

ВЗДУХАВІ́НА ж. балота. *У том балоці надто много ямоў, баяліся ступіць туды* (інф.). Уласаўцы Жытл.

ВЗЛУ́ХА ж. поле, лес. Горталь Целях.

ВІДАВЕ́Ц м. лес. *Гэты лес нідалёкі ад сяла, туды і стары па грыбы зойдзя* (інф.). Галенчыцы Ягл.; лес паміж вёскамі Гічыцы і Галенчыцы. *Высокае месца, наўкол яго балота, якое асушылі яшчэ за царом* (інф.). Гічыцы Ягл.

ВІДУГЕР м. балотца. Рацкевічы Міл.

ВІЖДЖА́Р м. балота, цяпер тарфяное поле. *Віжджар – топкае, грузкае балота* (інф.). Стайкі Стайк.

ВІЖДЖА́РЫ мн. лес. Бялавічы Кос.; балота. *Там выгараў торф і сталі ямы* (інф.). Заполле Кос.

ВІКТАРОЎ ГРУДО́К м. балота. Боркі Падст.

ВІ́ЛА мн. балота. *Колісь там була розвілка, розыходзіліса конавы* (інф.). Святая Воля Святав.

ВІЛІ́ШЧА н. востраў, ніўка на ім. Глінная Амяльн.; балота. *Там разыходзяцца дарогі, Вілішча тое место называюць* (інф.). Заполле Кос.

